Ў нумары: Польскае беларусазнаўства | Чырвоныя сцягі над мястэчкам | Новавостраўскія аматары



ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 17 (374) | ГОД VIII | 28 КРАСАВІКА 1963 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

# КАШТОЎНАЯ ШКОЛА



Праз адкрытыя вокны святліцы выліваюцца вясёлыя гукі гармоніка. Музыка кліча дзяўчат і хлопцаў на гулянку, кліча сустракаць вясну ў прыродзе і вясну свайго жыцця.

Чаму ж не весяліцца? Ім жа 17—18—19 год!

А быў час...

**— Вы, таварыш Стшалкоўскі, узначальвалі першае Ваяводскае праўленне ЗВМ у Беластоку. Раскажыце нашым чытачам аб тым часе.**

Тадэуш Стшалкоўскі пахіляецца над сталом і, абапершы галаву на далоні, даўжэйшы час сядзіць моўчкі. Толькі жыва пульсуючыя жылы на яго высокай скроні дазваляюць меркаваць, што ён інтэнсіўна думае, успамінае.

— Ну, запісвайце, — урэшце адзываецца ён і роўным галасам пачынае гаварыць: — Асабліва прыемна мне, што магу паслаць прывітанні беларусам, пражываючым у Польшчы, а перш за ўсё ў тых раёнах, з якімі звязаны я найдаражэйшымі ўспамінамі свайго жыцця.

У той асабліва цяжкі перыяд умацавання народнай улады насельніцтва Гайнаўскага, Бельскага і другіх паветаў было вельмі ахвярным і чынным у грамадскім жыцці. Члены ЗВМ з паўднёва - усходніх раёнаў Беласточчыны не толькі дапамагалі партыі ў замацаванні асноў народнай улады ў сябе на месцы, але яны таксама сваім найлепшым актывам падмацоўвалі пляцоўкі дзяржаўнай улады на тэрыторыі вернутых да айчыны паўночных земель і раёнаў, у якіх рэакцыя мела найбольш значныя ўплывы.

**— Якімі справамі Вы тады займаліся непасрэдна?**

— Цяжка вызначыць, чым мы тады займаліся непасрэдна, а чым пасрэдна. У роўнай ступені хвалявала нас і тое, што на нейкім прадпрыемстве маладзёжная брыгада пусціла ў рух новы станок, што сяляне засеялі дадатковы гектар збожжа, што ў магазін на час прывязлі хлеб, што разгромлена чарговая банда; і тое, што кітайская рэвалюцыйная армія заняла новы горад; і тое, што амерыкана - англійская інтэрвенцыя душыць партызанскі вызваленчы рух грэцкіх патрыётаў. Такі тады быў час. Мы не ведалі, што такое абыякавасць. Мне было тады 21 год. Папраўдзе, я не меў ніякай падрыхтоўкі да грамадскай дзейнасці, а тым больш да кіраўнічай работы. Ды і ўсе

(Працяг на стар. 4)

НЯХАЙ ЖЫВЕ 1 МАЯ

ВАСІЛЬ БАРШЧЭЎСКІ

# ГОРАД НАШАЙ МАЛАДОСЦІ

Кракаў — помнікавая жамчужына нашай краіны. На кожным кроку сустрэнеш тут частку старой гісторыі Польшчы. І гэта не толькі Вавэль ці сукеніцы. Яе адчуваеш амаль на кожнай кракаўскай вуліцы. Старыя каменічкі. Мноства касцёлаў. Цесна тут. Вузенькія вулічкі, большую частку якіх займае трамвайная лінія, ствараюць такую таўкатню, што месцам прабіцца цяжка. Здаецца, локцямі распіхнуў бы, пашырыў бы, каб больш было паветра, святла.

З цэнтра Кракава ў Новую Гуту трамваем едзецца паўгадзіны. Як жа лёгка адчуваеш сябе, калі выскачыш на Цэнтральнай плошчы Новай Гуты з набітага людзьмі, бы бочка селядцамі, трамвая. Якая ж тут шыр, прастор. З Цэнтральнай плошчы ў розныя бакі бягуць шырокія, простыя вуліцы з кветкамі. Тут мноства руж. Прыгожыя клумбы, а побач лавачкі. Сядай, адпачывай ды любуйся.

Новая Гута гэта наскрозь сучасны горад. Гэта, я б сказаў, адна з навейшых жамчужын строгага, багатага гістарычнымі помнікамі Кракава. Тут няма кантрастаў. Усё новае, сучаснае.

### ЦАРСТВА ДЗЯЦЕЙ

У дзельніцовым камітэце ПАРП Новай Гуты сустрэлі мяне ветліва. Кіраўнік асродка прапаганды камітэта тав Соляж добра ведае Беласточчыну.

Ён у 1946—47 гадах, адбываючы вайсковую службу, першы раз пазнаёміўся і падружыў з беларусамі Беласточчыны. Неаднойчы разам ганяліся за бандамі рэакцыйнага падполля, разам пераносілі цяжар тых гадоў, разам замацоўвалі народную ўладу. Такая дружба застаецца ў памяці назаўсёды.

Таварыш Соляж гісторыю і праблематыку Новай Гуты мае, так сказаць, у мізінным пальчыку. Ён сыпле, як з рукава, прыкладамі, лічбамі, фактамі. Таварыш Соляж быў сведкам, калі 14 год таму назад на месца, дзе цяпер стаіць Новая Гута, прыехалі першыя бульдозеры і, распіхаючы драўляныя будынiны, рабілі месца пад новы горад.

— Аколіца, дзе зараз будуецца Новая Гута, — гаворыць таварыш Соляж, — была надзвычай занпалай і гаспадарча і культурна. Людзі жылі бедна. У многіх выгадках утрымоўваліся з працы на манастырскіх маёнтках. У вёсках тыповымі былі хаты, дзе адну частку займалі людзі, а другую жывёла: каровы, свінні, конь. І людзі і жывёла ўваходзілі ў такую хату тымі самымі дзвярыма. Новая Гута ўжо паглынула 14 такіх занпалых вёсак і ўсё далей разбудоўваецца. Горад ужо налічвае звыш 113 тысяч жыхароў. Усе яны жывуць у прыгожых новых дамах. Да гэтага часу ў Новай Гуце пабудавана звыш 50 тысяч кватэр. У сувязі з разбудовай металургічнага камбіната да 1980 года пабудуецца тут яшчэ 105 тысяч кватэр, а горад будзе налічваць 260 тысяч жыхароў.

Але ўжо і цяпер у горадзе вялікі рух. На вуліцах мноства аўтамашын, матацыклаў. Нічога дзіўнага. Жыхары горада маюць 1100 уласных аўтамашын і каля 4000 матацыклаў. Глянеш на дахі дамоў — там лес тэлевізійных антэн. У Новай Гуце ўжо зарэгістравана каля 8000 тэлевізараў. Што Новая Гута — малады горад, гэта найлепш адчуваецца ў пасляабедні час на вуліцах, калі тысячы школьнікаў выйдуць са школ. У той час горад апанаваны дзецьмі і моладдзю. Проста не праміну́цца з імі на вуліцы. Куды ні глянь — усё дзеці, дзеці і дзеці. Хопіць сказаць, што ў Но-

(Працяг на стар. 4)



 

# ЛЮЦЫНА І СВЯТЛІЦА

Ёсць такія людзі, якія заваёўваюць твае сэрца адразу з першага кароткага спаткання.

Люцына Альховік — матор Сакалды. (Старшыня гуртка ЗМВ і бібліятэкар). Па яе ініцыятыве гурток ЗМВ арганізаваў мастацкі драмгурток, які пад кіраўніцтвам мясцовай настаўніцы Лары Байгус пачаў ужо працу.

Праблема святліцы ў Сакалдзе, як і ў многіх іншых вёсках, нявырашана. Не тое, каб не было наогул ніякай святліцы. Ёсць святліца пры школе. Лічаць яе школьнай святліцай, і ў гэтым бяда. Сорак школьнікаў не могуць належна выкарыстаць яе. А іншым як бы не надта выпадае працаваць у школьнай святліцы. Праўда, вострых правіл ніхто не трымаецца, і сакалдоўская моладзь заходзіць у святліцу. Люцына расказвае, што нядаўна яны арганізавалі тут вечар пры каве. Злажыліся па 8 зл., купілі каву, крыху пячэння. Самі каву парылі — гэта ж сапраўды ніякая мудрасць, самі абслугоўваліся. Крыху патанцавалі пад музыку з пласцінак. І ў выніку вечар быў незабыўны. Разыходзіцца не хацелася. Люцына кажа яшчэ, што яны (гурток ЗМВ) хацелі б, каб неяк канкрэтна вырашылася справа са святліцай. Была прапанова зрабіць яе грамадскай і абавязаць апекавацца ёю іменна гурток ЗМВ. Пакуль яшчэ нічога невядома. Апошняе слова належыць аддзелу асветы ў Сакольцы. Але павятовае праўленне ЗМВ ва ўласным інтарэсе павінна дагаварыцца з асветай як найхутчэй, каб і моладзь у Сакалдзе мела афіцыяльнае права на святліцу. Няхай часцей адбываюцца ў ёй культурныя вечары пры каве. Гэта нікому не зашкодзіць.

В.Л.

---

# П'ем замнога

На галаву ў нас прыпадае ў год: звыш 3-х літраў чыстага спірту, звыш 3-х літраў віна, 20 літраў піва плюс саматонка і віно ўласнай работы. Прыблізны падлік дасць 11—12 літраў 40%-най чыстай на кожнага жыхара Польшчы ў год.

На маё дзіця таксама выпадае столькі ж літраў. І на ўсіх іншых дзяцей таксама. А яны ж не п'юць. Нехта тады п'е падвойна, патройна. Нехта тады прапівае і долю сваіх дзяцей. Дарослыя. Моладзь.

У год прапіваем 20 мільярдаў (20.000.000.000) злотых. Гэта вельмі высокая частка нашага агульнанароднага даходу. Так цяжка бывае выдзеліць 50 злотых на будову школ (сапраўды бывае цяжка).

А колькі школ можна было б збудаваць за грошы, прапітыя за адзін год?

Школы, якія цяпер будуюцца, каштуюць каля 2,5 мільёна — 4-класная і звыш 3 мільёнаў — 7-класная. Разам з усім абсталяваннем, лаўкамі, сталамі, навуковымі прыладамі і г.д. Прымаем у сярэднім кошт адной школы за 5 мільёнаў. Значыць, за грошы, прапітыя за адзін толькі год, можна збудаваць... 4 000 школ.

Калі б усе бутэлькі пасля выпітага алкаголю паставіць шчыльна адна пры другой, імі можна было б апаясаць Зямлю вакол па экватары. Гэта 40 тысяч кіламетраў.

Што дае алкаголь?

Катар страўніка і другіх частак страваводу. Звырадненне печані — найперш яна ад алкаголю моцна тлусцее, а потым занікае. Катар дыхальных органаў. Пашкоджанне сэрца. Склероз. Пашкоджанне нервовай сістэмы, што цесна вяжацца з ненармальнай працай мозгу. Алкаголь згарае ўнутры нас, забіраючы пры гэтым кісларод. Алкаголь моцна высушвае жывыя клеткі, з якіх збудаваны наш арганізм. Алкаголь пранікае ў кроў і атручвае яе.

Судовыя статыстыкі гавораць: 75% забойств зрабілі людзі п'яныя. Толькі ў 61 годзе суды асудзілі 24 асобы за забойствы па-п'янаму і 830 асоб за ўдзел п'яных у бойках, у час якіх быў забіты або моцна пакалечаны чалавек. 80% катастроф на дарогах зрабілі шафёры, у крыві якіх быў алкаголь.

П'ем і п'ем, многа, замнога. Можна б менш. Адсюль і пастанавілі мы правесці некалькі вышэйшых даных. З верай, што не зашкодзіць ведаць, а памагчы можа.

(Даныя ўзяты з матэрыялаў ІІ-га З'езда Ваяводскага антыалкагольнага грамадскага камітэта).

(вл)




---

# НОВАВОСТРАЎСКІЯ АМАТАРЫ СЦЭНЫ

Куды сумней жылося б у Новым Востраве, каб не было там аматараў сцэнічнага слова, каб не было каму час ад часу развесяліць людзей мастацкімі выступленнямі. Гэтай працай займаюцца члены БГКТ, якіх налічваецца 27 чалавек. У асноўным гэта моладзь. Ды трэба сказаць, што яна ініцыятыўная, дружная. Нягледзячы на вельмі цеснае школьнае памяшканне, апошнім часам у Новым Востраве кожны год падрыхтоўваецца па некалькі пастановак. Вось, напрыклад, у мінулым годзе ставіліся там п'есы «Прымакі» і «Мікітаў лапаць». На пачатку бягучага года хлопцы і дзяўчаты пры дапамозе настаўнікаў падрыхтавалі «Суд» і «Боты». З «Судом» выступалі ў Паўночным Востраве на павятовым аглядзе драмгурткоў БГКТ Сакольшчыны і занялі першае месца, а на ваяводскім аглядзе ў Гайнаўцы заквакліфікаваліся на другое месца.



— Пасля такіх папоек крынічная вада патрэбная на галаву... (У ролі вартаўніка Віталі Байгус.)

Варта таксама звярнуць увагу на ініцыятыўнасць новавостраўскіх дзяўчат. Да п'есы «Боты» нехапала хлопцаў. Але з гэтым не было затрымкі. Фэля Стасевіч і Люба Грыбок паспяхова справіліся з мужчынскімі ролямі.



— Еш хлеб ды маўчы, — сказаў Гарбуз (Міша Гурыновіч) да Гарбузіхі (Ніна Грыбок).

Сярод дзяўчат ёсць таксама добрыя салісткі. Да іх перш за ўсё належыць Надзя Мацееўская і Таіса Булатэвіч, якіх заўсёды ўзнагароджваюць багатымі апладысментамі за выкананне беларускіх і рускіх песень.

Мастацкая самадзейнасць дапамагае расці духоўна новавостраўскай моладзі. Яна вучыць моладзь высакароднасці, робіць яе культурнейшай. Аб гэтым сведчыць між іншым і той факт, што зараз забавы адбываюцца там спакойна, без сутычак, што з'явілася асаблівая ветлівасць у адносінах да моладзі з суседніх вёсак.



— Выдраў мне бараду, каб на яго ліха, — скардзіўся Гарбуз вартаўніку.

М. Хмялеўскі

---

**СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ**

# КАРАЛЕВА РАСЛІН

Любім дыскутаваць. Трэба ці не трэба. З сэнсам, або і без яго. Абапіраючыся на факты, або варожачы... па зорках.

Кукуруза — гэта найчасцейшая тэма спораў. Знаходзім дзесяткі аргументаў «за» і столькі ж «супраць». А найбольш заўзята дыскутуюць тыя, што ніколі не вырошчвалі кукурузы, але затое «ўсё» ведаюць.

Дык як жа сапраўды выглядае справа з кукурузай на Беласточчыне? Ці варта вырошчваць яе? Скажу адразу: варта. Гэта найлепшая і найбольш ураджайная расліна на сілас. Збор зялёнай масы дасягае ў нашым ваяводстве 400—600 ц з га. Многія збіраюць і па 1000—1200 ц, а рэкордныя ўраджаі дасягаюць 2000 ц з гектара.

Некаторыя дзяржаўныя гаспадаркі ўжо ацанілі гэтую каштоўную расліну. ПГР-ы ў Агародніках і Беласукнях сеюць па 12 га кукурузы. Яна з'яўляецца галоўнай састаўной часткай пры сіласаванні. У гэтым сэнсе яна незаменная. Таму яе трэба вырошчваць столькі, колькі патрабуюць умовы гаспадарання.

Варта пазнаёміцца з асноўнымі правіламі вырошчвання кукурузы. У нашым ваяводстве ёсць шмат глеб, якія надаюцца пад кукурузу. Гэта ў першую чаргу глебы пясчана - глiністыя і гліста - пясчаныя. Горш расце кукуруза на глебах падмоклых і моцна кіслых.

Сеем кукурузу часцей за ўсё пасля прапашных. Добра ўгноіць натуральным угнаеннем з разліку 300 ц на га. Калі няма гною, трэба больш унесці мінеральных угнаенняў.

Сярэднія нормы ўгнаенняў такія: па 100 кг калійных і фосфарных угнаенняў (перад пасевам), а таксама 150—200 кг азотных (100 кг азатняку перад севам і 50—100 кг селітры пазней). Ашчаджаць угнаенні не варта, асабліва ў тым выпадку, калі кукуруза сеецца ў першым годзе па гною, а глеба слабая.

Калі сеяць? Гэта вельмі важна. Кукуруза, якая найлепей расце ў Амерыцы, дзе вырошчваецца на вялікіх плошчах, патрабуе шмат цяпла. Асабліва ў час вегетацыі. Таму трэба сеяць яе тады, калі тэмпература глебы дасягне 10—12° (найчасцей у палове мая).

Навейшыя даследванні паказваюць, што гной можна замяніць кампостам, а мінеральныя ўгнаенні — гнаёўкай. Кампосту даем 60—80 ц на га з дадаткам 50 кг селітры, 40 кг суперфасфату і 20 кг калійнай солі (па вопыту ў СССР). У Польшчы таксама прымяняецца гнаёўка — 10 тыс. літраў на гектар.

Дадатковыя даныя для кукурузы: высеў — 50—60 кг на гектар, адлегласць 50x50 або 60x60 см, запраўляецца насенне тунгітоксам (300 гр прэпарату на 100 кг насення), павінна быць каля 80 000 каліў на 1 га кукурузы на зялёны корм.

Любіце дыскутаваць — дыскутуйце. Але не верце плёткам і беспадстаўным вывадам. Лепей спрабуйце.

Інж. М. СУХАЖЭБРСКІ



 

